# СЁННЯ DZISIAJ TODAY

Тэма сёлетняга XX Трыялогу: „Сёння Dzisiaj Today" падаецца надта агульнай. Адразу можа ўзнікнуць думка: ці ўся Беларусь, ці можа нейкая адна сфера жыцця? Лягчэй з паняццем „сёння", бо гэта сучаснасць, рэальны стан, цяперашні момант, а не мінулае альбо будучыня. Аднак ушаноўваючы памяць і працягваючы ідэю ініцыятара Трыялогу – Сакрата Яновіча мы звычайна ў першую чаргу засяроджваемся на дарагой яго сэрцу культуры, у прыватнасці на літаратуры. Пры гэтым нельга забываць, што паняцце культуры шырокае і ўключае ў сябе гэтак духоўны як і матэрыяльны складнік. У мяне „Беларусь сёння" адразу выклікала асацыяцыю з афіцыйным беларускім выданнем „Советская Белоруссия" перайменаванай у „СБ-Беларусь сегодня". Роўна год таму гэтае выданне з 90-гадовай гісторыяй увайшло ў буйны медыйны холдынг. Яе новы кіраўнік Дзмітрый Жук кажа, што „мы надалей будзем пісаць праўдзівы летапіс нашай цудоўнай зямлі і нашага слаўнага, працалюбівага народу". Дарэчы, ёсць таксама і ў Расіі тэлеканал „Россия сегодня" які са шчодрай рукі Крамля вяшчае на шэраг краінаў свету даводзячы да 150 мільёнаў замежных гледачоў так званы „правільны і праўдзівы" погляд на падзеі ў Расіі і свеце. З 1982 году і ў ЗША выходзіць шматтыражная газета „USA Today". Праўда, яна пазіцыянуе сябе як цэнтрысцкая і не прэтэндуе на званне выказніка „поўнай і адзінай праўды".

### Краіна перыферыйная, малавядомая, па-за ўвагай

Калі мне ставяць моцна абагульненае пытанне я адразу адклікаюся да інтуіцыі, да першых асацыяцый. „Беларусь сёння?". Дык гэта ж Яновічава „Terra incognita". Адназначна, з сэнсам, уцямна і пераканаўча ніхто не раскусіў яе няяснага мінулага, і цяперашні стан акрэсліваюць хутчэй суб'ектыўна, стэрэатыпна. Грунтоўна пазнаць краіну і народ не атрымаецца нават калі б чалавек ад калыскі па магілу пражыў у ёй, з'ездзіў яе ўздоўж і ўпоперак. Беларусь – увасабленне сярэднясці літаральна ва ўсім: велічыні, колькасці насельніцтва, эканоміці, патэнцыялу і ўзроўню жыцця. Ва ўсіх важных рэйтынгах яна займае месца прыблізна ў палове 150-200 апытаных краін. Асабліва важным я асабіста лічу штогадовы даклад „World Happiness Report", у якім пазначаецца суб'ектыўнае адчуванне шчасця. Беларусь займае ў гэтым рэйтынгу сярэдняе 81-е месца. З улікам характэрнай для беларусаў схільнасці да наракання, гэта і так неблагі вынік і не найгоршая падстава для самапавагі, каб паглядзець на сябе з пачуццём пэўнага гонару, вышэй падняць галаву. На жаль, такога не назіраецца.

Беларусь – малавядомая і мала цікавіць міжнародныя медыя, бо тая ціхая стабільнасць і прадказальнасць – нецікавая. Нармальнасць непрывабная, нудная, а людзей цікавіць гвалт, мардабой, скандал і сенсацыя. Беларусь наведвае ў год усяго некалькі сот тысяч турыстаў. Калі гэта расейцы альбо ўкраінцы, дык у параўнанні са сваімі краінамі ім амаль усё тут падабаецца. „У вас спакойна, парадак, чысціня, усё прыбранае, культурныя, прыязныя людзі, добрыя дарогі, стабільнасць, размераны лад жыцця, а ў нас жа – самі ведаеце: балаган і мітусня. Калі б не тое, што фанаты спорту не называюць зборную Расіі ‹нашымі› але ‹рускімі›, дык не было паміж намі ніякіх ментальных адрозненняў" – канстатуюць расейцы. Украінцам імпануе „еўрапейскасць" Беларусі: асабістая культура ў параўнанні з расійскай грубасцю і хамствам, модная вопратка, платныя дарогі, электронныя картачкі. Нават нязменны кіраўнік дзяржавы не злосціць, бо прынамсі прывучае да парадку і дысцыпліны.

Прыезджыя з Захаду таксама прыемна ўражаныя парадкам, чысцінёй, хаця ў іхніх галовах застаецца ярлык, які 14 гадоў таму павесіў краіне Джордж Буш: „апошняя дыктатура Еўропы". Гэта адразу нагадвае ім пра смяротнае пакаранне, парушэнні правоў чалавека, дрэнныя ўмовы жыцця. Аб'ектыўна, Расія шмат у чым горшая, але яна ядзерная звышдзяржава. Нават украінскі бясконцы балаган для свету цікавейшы за беларускі стабільны застой. Вельмі трапна, бадай найлепш з усіх замежнікаў зразумеў Беларусь канадскі навуковец, аўтар шматлікіх кніжак пра Беларусь – Дэйвід Марплз (David Marples). Пасля Чарнобыля ён зацікавіўся Беларуссю і пабываў тут даўжэйшы час некалькі дзясяткаў разоў. Па яго словах, вобраз Беларусі ў свеце негатыўны па некалькіх прычынах з якіх мабыць галоўная тая пасіўная, бяздумная, маўклівая згода беларусаў на дыктатуру і Лукашэнку. Марплз называе Беларусь „краінай у чаканні" (nation-in-waiting), а беларусаў „як ментальных расейцаў без павагі да нацыянальнай дзяржавы, да роднай мовы і культуры. Ствараецца ўражанне дзяржавы, што застрагла паміж эпохамі...

сучасная Беларусь гэта цалкам прадукт эпохі сталінізму, савецкай рэспублікі і наўмыснага знішчэння нацыянальнай адметнасці ў савецкія часы а Лукашэнка лагічны вынік такой пазіцыі" – лічыць канадскі вучоны. Найкарацей як толькі можна ён кажа пра Беларусь: „спакойная, мірная, шматпакутная. І зямля, і нацыя такія". Гісторыкі, у тым ліку і заходнія ведаюць, што Беларусь пад цяперашняй назвай аформілася толькі 100 гадоў таму, незалежная яна ўсяго 30 гадоў, але іх здзіўляе, што беларусы нават не запярэчваюць, калі іх атаясамліваюць з расейцамі. З прычыны сваёй абыякавасці, ляноты і адсутнасці самапавагі ў размове з замежнікамі яны падтрымліваць гэтакія стэрэатыпы.

### Беларускія парадоксы і стэрэатыпы

У мінулым годзе Артур Зыгмунтовіч апублікаваў сваю кнігу „Беларусь – імперыя кантрастаў" – плён сваіх чатырох падарожжаў па Беларусі. Кніга поўная забаўных анекдотаў і трапных сацыялагічных назіранняў. „Гэта краіна, дзе сярэднестатыстычны грамадзянін зарабляе 300 даляраў, на пражыццё выдаткоўвае 400 а яшчэ 100 пакідае на горшыя часы. Гэта дзяржава адначасова апякунская і рэпрэсіўная, дзе заўсёды ёсць месца ў дзіцячым садку, беспрацоўных лічаць дармаедамі, з апазіцыяй размаўляюць на мове дубінак; прэзідэнт вучыць як садзіць бульбу, катаецца на лыжах і перад тэлекамерамі звальняе дырэктараў. Гэта сучасная, імпазантная сталіца і вёскі якія не змяніліся за апошнія 100 гадоў, дзе паўсюль помнікі Леніна і Дзяржынскага, але таксама безліч спартовых аб'ектаў. Беларусь нібыта лідзіруе ў спажыванні алкаголю, але нідзе не сустрэнеце п'янага ні жабрака. Беларусь, гэта спалучэнне вады і агню, якога не сустрэнеце нідзе ў свеце". Па словах Зыгмунтовіча „падарожжа на Караібы запамятаеце на паўгода, але візіт у Беларусь на ўсё жыццё".

Дзіўнае раздваенне свядомасці адзначыла таксама тэолаг і культуролаг Ірына Дубянецкая. „Саромеемся мовы, падаравалі герб" – кажа яна. „Большасць замежнікаў, якія хочуць хоць трохі даведацца пра Беларусь сутыкаюцца з разгубленасцю. ‹Ці Беларусь гэта частка Расіі› – пытаюцца. ‹Не!› – гучыць адказ. ‹А дзе межы Беларусі?› Беларус калі ён сумленны разгубліваецца: ‹Ну, ведаеце, межы Беларусі цяпер не зусім супадаюць з яе гістарычнымі межамі...› Замежнікі пытаюцца: ‹Добра, а якая ў вас сімволіка?›. Сумленны беларус у тупіку: ‹Ну, у нас такі старажытны герб „Пагоня", але зараз ён – герб іншай дзяржавы – Літвы, а сцяг – бел-чырвона-белага колеру, але цяпер ужываецца іншая сімволіка, якая была прынятая за Саветамі...›. ‹А якая ў вас сталіца?› – пытаюцца замежнікі. ‹Ну, Мінск, але насамрэч ён называецца Менск, але насамрэч старая сталіца – Вільня, але цяпер гэта сталіца іншай дзяржавы...›. Тады ў замежніка зусім мазгі закручваюцца, ён пытаецца: ‹А якая ў вас мова?› Беларус ахвотна і радасна заяўляе: ‹Беларуская› – але каб не схлусіць ён дадае: ‹Але беларусы на ёй практычна не размаўляюць, а гавораць на мове суседняй дзяржавы, па-расейску›. І замежнік круціць галавою і ніяк не можа гэтага зразумець. ‹Такога нідзе няма ў свеце›! ‹За што не зачапіся, нават за элементарныя дзяржаўныя атрыбуты, усё блытаецца, расплываецца›" – кажа Ірына Дубянецкая.

### Непрыўдзівыя міты

Існуе шэраг стэрэатыпаў пра Беларусь і большасць з іх непраўдзівыя. Беларусаў называюць „бульбашамі" а дранікі нацыянальнай стравай, але бульба з'явілася толькі ў XIX стагоддзі а яе спажыванне замацавалася за савецкім часам. Традыцыйна, беларусы хутчэй бацьвіннікі і грыбнікі. Беларусы насуперак словам гімну зусім не „мірныя людзі". З XIII па XVI стагоддзе Вялікае Княства Літоўскае бясконца ваявала і стала найвялікшай краінай Еўропы. Мірна беларусы жывуць толькі з часу вайны 70 гадоў таму. Беларусь не „малая краіна", але 13-я паводле вялічыні ў Эўропе, а „малая" яна толькі ў параўнанні з Расіяй і Украінай. Беларусы не „малодшы" брат а славянскае братэрства прыдумалі за царскім часам. Міт пра „старэйшага", галоўнага брата, які атрымаў назву „Вялікарос", і двух „малодшых" братоў – „Малароса" (украінца) і Беларуса (жыхара „Белай Русі") з'явіўся пасля далучэння ўсіх беларускіх і большыні ўкраінскіх зямель да Расіі. Міф пра тры братнія народы на чале з расійскім трывала ўвайшоў у савецкія падручнікі. Пра славянскае братэрства любяць згадваць не толькі расійскія медыі, але і беларускія ўлады. Асабліва напярэдадні перамоваў пра крэдыты і цэны на нафту. Беларусы не надта талерантныя. Сапраўды, у беларускіх гарадах стагоддзямі мірна жылі праваслаўныя, каталікі, юдэі і мусульмане. У краіне на памежжы культур і рэлігій людзі вымушаны былі прымаць не такіх, як яны. Але пры гэтай гістарычнай талерантнасці беларусы застаюцца нецярпімымі шмат да якіх з'яваў. Яны прыхільнікі смяротнага пакарання, у іх высокі ўзровень гамафобіі і расізму. Паводле рэйтынгу Martin Prosperity Institute ў 2015 годзе, Беларусь заняла 97 месца паводле ўзроўню талерантнасці: стаўлення грамадзян да імігрантаў, прадстаўнікоў іншых рас і этнасаў, сексуальных меншасцей.

### Без мэты, плану і перспектывы

**Калі ўлічыць**, што самыя папулярныя пагаворкі і пажаданні: „абы не было горш" і „абы толькі не было вайны", дык цяпер задавальняе большасць або прынамсі значную частку беларусаў, асабліва старэйшых. Аднак беларусы жывуць неяк без мэты і амбіцыі. Палякі ўжо дасягнулі сваёй асноўнай мэты: далучэння да заходніх альянсаў і цяпер хочуць зраўняцца ў заходнімі еўрапейцамі ў сэнсе дабрабыту. Затое ў беларусаў, хаця і існуе праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця, аднак я не бачу і не чую пра ніякую канкрэтную мэту, план на будучыню. Ужо 7 гадоў таму (2012 г.) замежныя і беларускія эксперты разам стварылі кнігу „Будучыня Беларусі" як спробу прадказаць развіццё падзеі праз 5, 10 і нават 20 гадоў. Палітолаг Аляксандр Класкоўскі кажа, што „Беларусь – гэта краіна не стратэгіі, а тактык. Улада жыве сённяшнім днём, абы Расія ізноў падкінула нафты і газу, краіна праядае рэсурсы, а апазіцыя не вельмі ўяўляе, што будзе пасля змены ўлады. „Вось, напрыклад, скінуць Лукашэнку – і ўсё ў нас будзе добра, будзем багатыя і шчаслівыя. Не так. Праблема яшчэ ў ментальнасці нацыі, у тым, што ў нас само стварэнне нацыі не скончылася на сёння", – зазначае Класкоўскі. „Трэба думаць пра дзяцей і ўнукаў, каб гэта была будучыня сусветнай эліце, а не ў трэцім свеце", – заўважае палітолаг, але сцвярджае, што гэтым ніхто не хвалюецца.

**Тры гады таму** (2016 г.) быў рэалізаваны праект „Журнала" і сайта „ЭўраБеларусь" „Беларусь: вобраз будучыні". Аўтарытэтныя ўдзельнікі праекту заявілі, што ў Беларусі пераважаюць папулісцкія і прагматычныя тэндэнцыі, дамінуе клопат пра сённяшні дзень, няма ні хвалявання ні зацікаўлення перспектывамі развіцця краіны. Складваецца ўражанне, што беларусы не вераць у свае сілы. Маўляў: „усё роўна вырашаць без нас, не пытаючы". Літаральна год таму, палітолаг Рыгор Астапеня заявіў, што „Беларусь не хоча радыкальных змен, яна хоча заставацца ў сферы расійскіх інтарэсаў, затое Еўрасаюз цікавіць яе толькі як інвестар, як гандлёвы партнёр, пастаўшчык тэхналогій і грошай. Па яго словах, у Лукашэнкі, які многа гаворыць пра шматвектарнасць палітыкі краіны няма ніякай знешнепалітычнай стратэгіі. У Беларусі няма жадання быць незалежнай краінай. Мы жывём у стане калі не ведаем, куды краіна ідзе" – казаў Астапеня. Эксперты прагназуюць, што і праз 20 гадоў Беларусь застанецца ў сферы ўплываў Расіі, хаця поўнай страты незалежнасці краіны не адбудзецца.

### Комплекс правінцыйнасці

**У Беларусі складаная гісторыя**. Спакон веку пастаянная барацьба за выжыванне і ўплыў мацнейшых культур прытупілі ў народзе пачуццё ўласнай годнасці, веру ў свае сілы. Калі адміністрацыйная або культурная сталіца ў Маскве ці ў Варшаве, дык Беларусі адведзеная роля калоніі, захопленай і зрабаванай краіны або правінцыі. „Правінцыялізм, комплекс непаўнацэннасці, прышчэплены беларусам цягам XIX стагоддзя ў выніку расійскай каланізацыі іхніх кажа – філосаф Алесь Анціпенка. Той, хто захапіў гэтую зямлю хоча, каб яна выглядала нечым другасным, неістотным, нягеглым, чымсьці, што вартае жалю. Правінцыя – гэта адсутнасць культурніцкага цэнтра, нябачнасць культурнай традыцыі і гісторыі. Задача ўсіх каланізатараў прышчапіць і выпрацаваць комплекс няпоўнацэннасці, каб потым было лягчэй кантраляваць і кіраваць захопленай зямлёй". Сапраўды, як правіла, цэнтр накідае сваю, нібыта „лепшую" мову, веру, культуру. Нават у часы БССР беларусы былі перакананыя, што ўся сіла, багацце і веліч на Ўсходзе, самае лепшае ўключна з інтэлектуальнымі сіламі ў Маскве. Гэты комплекс правінцыялізму вылез на пачатку 1990-х гадоў, калі заклікі да незалежнасць Беларусі сутыкнуліся з такой вельмі простай формулай: „Как же мы без России? У нас же нет ресурсов". Нікому і ў галаву не прыйшло, што Швейцарыя не мае ніякіх прыродных багаццяў, але існуе як самастойная дзяржава ўжо 700 гадоў!

### Беларусы падзеленыя на два лагеры

**Пра падзел на два плямёны** гаворыцца ў Польшчы ў дачыненні да палітыкі і выбараў, але ў Беларусі гэты падзел яшчэ больш відавочны. Вядома, у Беларусі дзве дзяржаўныя мовы. Паралельна ўжываюцца дзве нацыянальныя сімволікі: афіцыйная і „гістарычна-незалежніцкая". У краіне дзве галоўныя канфесіі: праваслаўныя і каталікі. Першыя ў асноўным расійскамоўныя і прыхільнікі інтэграцыі з Расіяй, другія ставяць націск на беларусізацыю і натуральным чынам аглядаюцца на Захад. У Беларусі два саюзы пісьменнікаў: праўладны СПБ і незалежны СБП, так званы „чэсны" і „нячэсны", адзін з Домам Літаратара, доступам да ўсіх выдавецтваў, студыяў, залаў і ўстаноў а другі пазбаўлены гэтага. Нават Саюзаў палякаў у Беларусі два: праўладны і незалежны. Адны творцы маюць падтрымку з боку дзяржавы, паколькі яны належаць да так званых „чэсных" а другія такой магчымасці не маюць, бо яны

„нячэсныя", настроеныя супраць кіраўніцтва краіны. Пасля 1991 года і незалежнасці, якая звалілася на галаву без вайны і спадзяванняў, супрацьстаянне „мы" і „яны" паглыбілася і паміж пакаленнямі саміх беларусаў як і імі ды суседзямі. Старэйшае пакаленне прызвычаілася да савецкай сістэмы працы і культурных каштоўнасцей. Гэта так званыя „калхазаны" альбо „застабілы", якія жывуць найперш „хлебам надзённым". Іх задавальняе невялікая але рэгулярна выплачваная пенсія і ў іх ключавы прынцып: „абы не было горш" і „абы не было вайны". Затое моладзь у большасці апалітычная, але паглядае на Захад. Новае пакаленне юнакоў і дзяўчат больш за ўсё дбае аб уласным дабрабыце і асабістым інтарэсе, а колер пазногцяў, варыянт аздаблення прыватнай старонкі ў сеціве ды гламурныя тусоўкі іх хвалююць нашмат больш за палітычныя рэпрэсіі. У Беларусі дзве рэчаіснасці.

У лістападзе мінулага года (2018) кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Наталля Качанава заявіла, што Беларусь „великолепная страна". Аднак яна не захаплялася краявідамі, лясамі і азёрамі, але сістэмай кіравання пры якой беларусам нібыта жывецца выдатна і шчасліва. Кіраўнік дзяржавы бясконца хваліць дасягненні краіны літаральна ва ўсім а дзяржаўныя СМІ штодня ўбіваюць яго словы ў галовы людзей. Пэўнай групе набліжаных да ўлады людзей жывецца добра, але большасці з тых астатніх 8 мільёнаў, якія яшчэ застаюцца ў краіне жывецца дрэнна і тыя паўтары мільёна чалавек, што часова альбо назаўжды з'ехалі з краіны, зрабілі гэта не ад добрага жыцця. У краіне дзе прапагандуецца стабілізацыю і бяспеку як найвышэйшыя каштоўнасці ўсё нагадвае брэжнеўскі застой. У Беларусі адначасова і рынкавая і планавая эканоміка. Невялічкі бізнес можна адкрыць, але з цяжкасцю і ў невялікіх маштабах. Многія беларускія заводы працуюць па інертнасці, хоць яны стратныя. Працуюць дрэнна, але звольніць нікога нельга, прадукцыя нікому не патрэбная, але выраб яе ніколі не перапыняецца. Вынік нікога не цікавіць, галоўнае – „абы ціха", „абы не ўгнявіць насельніцтва", без шоку і непапулярных крокаў.

**Дзяржаўная ідэалогія і нацыянальная ідэя**

Ідэалогія любой дзяржавы – гэта нацыянальная ідэя, якая згуртоўвае і мабілізуе грамадзян, дазваляе людзям розных перакананняў прыйсці да ўсведамлення агульных каштоўнасцей, спрыяе ўсталяванню ў грамадстве атмасферы згоды і стварэння. Тэарэтычна, асновы ідэалогіі беларускай дзяржавы афіцыйна сфармуляваны ў Канстытуцыі: усё павінна рабіцца для чалавека і ў інтарэсах Беларусі. Аднак гэта вельмі неканкрэтная фармулёўка, таму кіраўнік дзяржавы патлумачыў яе сэнс наступным чынам: „Беларуская ідэалогія павінна арыентавацца на традыцыйныя для нашай цывілізацыі каштоўнасці: здольнасць працаваць не толькі дзеля нажывы, але і для дабра грамадства, калектыву, іншых людзей. Існуе патрэба ідэалаў і высокіх мэт, узаемадапамогі, калектывізму ў процівагу заходняму індывідуалізму... Па сутнасці ва ўсходнеславянскім і усходнееўрапейскім свеце мы засталіся духоўным лідарам і адзінай краінай, якая адкрыта прапаведвае вернасць нашым традыцыйным цывілізацыйным каштоўнасцям" – лічыць беларускі кіраўнік. Ён даручыў экспертам дакладна распрацаваць і сфармуляваць дзяржаўную ідэалогію ды нацыянальную ідэю, але адкінуў усе прапановы, бо яны „не клаліся на сэрца і душу ды не ў стане захапіць увесь народ". „Я быў бы невыказна ўдзячны, калі б хтосьці сфармуляваў гэтую ідэю і пераканаў мяне, што яна мае сэнс" – заявіў летась Лукашэнка. Раскрытыкаваўшы сваіх штатных ідэолагаў за „жудасны, махровы фармалізм і бюракратызм савецкіх часоў" урэшце ён адзначыў, што любую дзяржаўную ідэалогію прыйдзецца прымаць асабіста яму. Не агучыўшы яе прэзідэнт і без гэтага рэалізуе сваю лінію, якая прадугледжвае цесны саюз з Расіяй насуперак заходнім каштоўнасцям. Справа ў тым, што еўрапейская цывілізацыя збудаваная на індывідуалізме, прыярытэце чалавека над супольнасцю і кланам, на павазе да правоў меншасці. Пад гэтае права трапляюць і прыватная ўласнасць, і дэмакратычныя свабоды, і абмежаванне ўлады і дзяржавы Канстытуцыяй, і нават нацыянальна-моўныя клопаты. Але ў беларускай калгаснай свядомасці асобны чалавек нічога не значыць, таму бясконца ідзе гаворка пра „супольнасць", „агульнае дабро", адказнасць", „патрыятычны абавязак", „грамаду", „калектыў", „народ" і г.д.". Такі падыход тычыцца літаральна кожнай сферы жыцця ўключна з бізнесам і мастацкай творчасцю. У рамках тае ж недапрацаванай але дзейснай ідэалогіі ў Беларусі на ўсё глядзіцца як на абавязак служэння грамадству ці Айчыне, апазіцыі ці ўладзе, ці хоць бы сваёй „незалежнай" творчай „вольнай суполцы". А чаму гэта прадпрымальнік, навуковец, рабочы, пісьменнік, мастак, творчы чалавек абавязкова павінен імкнуцца стаць „карысным" для краіны, а не для сябе і сваёй сям'і? Чаму мастак павінен імкнуцца стаць служкай народу, „народным", быць гонарам і сумленнем нацыі? А чаму ён не можа пісаць папулярныя дэтэктывы, засяродзіцца на самарэалізацыі і заробку, займацца тым, што яму па сэрцы, у гэтым дасягнуць поспеху, славы і гэтым ускосна прычыняцца да папулярызацыі ў свеце сваёй краіны?

### Страчаныя шанцы

За ўсе гады незалежнасці Беларусь стаіць раскірэчаная паміж Усходам і Захадам, паміж Расіяй і Еўропай. У 2013 годзе Барыс Нямцоў (застрэлены ў 2015) казаў: „Я лічу, што ў Беларусі ёсць болей шанцаў стаць свабоднай, дэмакратычнай, еўрапейскай дзяржавай, чым у Расіі. Па – першае, у Беларусі няма імперскага комплексу. Па – другое, вы – абсалютная сарцавіна Еўропы. Па – трэцяе, у вас няма Каўказу. Акрамя таго, вы – адукаваны народ і ў вас зусім блізка Еўропа. Карацей кажучы, калі ў вас атрымаецца, значыць, і ў нас атрымаецца". Нямцоў слушна лічыў Расію імперскай, недэмакратычнай краінай, але гэта з ёю Беларусь завязала альянс. Сапраўды: кожны беларус перакананы, што Беларусь у цэнтры Еўропы, але беларусы застылі ў сваім развіцці як бы чакаючы нейкага цуду. Самі беларусы змірыліся з фактам, што ім спрадвеку наканавана быць памежжам, жыць у транзітнай зоне, на скрыжаванні гістарычных шляхоў. Беларусы цалкам пазбаўленыя месіянскага духу ў адрозненне ад палякаў і расейцаў, якія лічылі сваім абавязкам несці і навязваць сваю культуру і ўладу суседзям. Беларусы выпрацавалі толькі мадэль прыстасавальніцтва да любых знешніх уплываў. Яны нічога свайго не прапагандуюць, затое прызвычаіліся паглядаць у чужы бок перад тым, як стварыць нешта сваё. Пры гэтым цяга да запазычання арыентуецца не на больш развітыя еўрапейскія стандарты, але на „старэйшага брата". Адбыўся цікавы паўтор гісторыі. У 1935 годзе польскі публіцыст Ежы Вышамірскі пісаў з Вільні: „Песня, з якой правадыры беларусаў хочуць стварыць гімн вызвалення, пачынаецца са слоў: ‹Ад веку мы спалі, ды нас абудзілі›, але гэта няпраўда. Горкую і з'едлівую праўду змяшчае нашмат больш брутальная пародыя той песні: ‹Ад веку мы спалі, ды нас абудзілі, далі нам пад ср...у, і зноў палажылі›". Пры фармальнай незалежнасці Беларусь паралізаваная. Атрымліваючы ад Расіі як саюзнік і буферная зона вялізную падтрымку, хітра выпрошваючы ў Маскве чарговыя падачкі, даўно можна было б паступова, абачліва, разумна рэфармаваць і зрабіць больш эфектыўнымі эканоміку, навуку, медыцыну, адукацыю, палепшыць пенсійную сістэму, адрадзіць родную мову, падняць прэстыж нацыянальнай культуры і такім чынам згуртаваць насельніцтва, даць яму ўспомніць і зразумець, што беларусы – паўнавартасны народ з вялікай гісторыяй і слаўнымі традыцыямі. Вядома, без яўнага развароту на Захад, бо Расія такое не дазволіла б, але мадэрнізаваць краіну не перашкаджала б, як не перашкаджае будаваць дарогі і армію. Аднак усё гэта азначала б змену ўлады, а беларускі кіраўнік хоча яе захаваць.

### Роля нацыянальнага характару

Пра тую славутую лагоднасць і памяркоўнасць беларусаў ды іншыя цноты сказана аж надта дастаткова, але часцяком гэта не плюсы але мінусы. Тыя, хто даражаць спакоем і стабільнасцю павінны ведаць, што ідэальны спакой і цішыня – на могілках. Міхал Анемпадыстаў, які памёр летась у студзені, стваральнік эпахальнага твору „Народнага Альбома" казаў пра беларускі генетычны тэмперамент і псіхатып. На яго думку „большасць беларусаў маюць характэрны для паўночных народаў псіхатып схільны да меланхоліі, дэпрэсіі, закрытасці, боязі перамен. Таму ў прыватнасці літаратура вылучаецца бясконцым сумам і тугой, якія так утульна адчуваюць сябе ў творах беларускіх пісьменнікаў. І пры гэтым такі расклад усім падабаецца. Узнікае нейкі беларускі мазахізм, якім нават ганарацца. Чым горш, тым лепш" – казаў Анемпадыстаў. Ужо Адам Міцкевіч у лекцыях па „славянскім фальклоры ды філалогіі" ў Парыжы, гэтак казаў пра сваіх суайчыннікаў-ліцвінаў: „Жыццё іх цалкам у духу. На зямлі іх гісторыя, поўная смутку і жальбы". Смутак і жальба – гэта тыповыя рысы сучаснай неафіцыйнай беларускай культуры, якія быццам складаюць паралельную рэчаіснасць у процівагу напружана-радасным, але цалкам штучным феерверкам і скокам афіцыйнай культуры.

Культуролаг Ірына Хадарэнка пісала, што сфармаваны гістарычным лёсам нацыянальны характар заўважны ў характары і тэндэнцыях усяе беларускай культуры. У якасці яе асноўных рыс яна назвала: маргінальнасць, перыферыйнасць, трэшавасць, негатывізм, адсутнасць пасіянарнасці, фіктыўнасць і самаахвярнасць, мазаічнасць, неакрэсленасць і сумбурнасць. Што тычыцца непасіянарнасці, дык паводле творцы паняцця пасіянарнасці – Льва Гумілёва, некаторыя культуры дынамічныя, агрэсіўныя, баявыя, цікаўныя, энергічныя, а іншыя, у тым ліку беларуская наадварот: халодныя, нерухлівыя, маразматычныя, азяблыя, засяроджаныя на захаванні свайго. З прычыны няпоўнавартаснасці ў беларусаў вельмі моцная звычка недаацэньваць сваё і купляцца на добра раскручанае чужое. Паводле большасці, усё беларускае другаснае, а Беларусь – месца, дзе нічога добрага няма і быць не можа. Гэтым і тлумачыцца сітуацыя ў культурнай і медыйнай прасторы, дзе дамінуе ўплыў Расіі. Паколькі вельмі жывучай аказалася настальгія за савецкай эпохай, культура застаецца пераважна постсавецкай па духу, атмасферы і механізмам ажыццяўлення творчых ініцыятыў.

**Дзяржава прапагандуе „чэсную" халтуру**

**Няблага разумеючы менталітэт народу** ўлады паспяхова праводзяць сваю палітыку ва ўсіх сферах уключна з культурай. Паводле маніторынгу стану беларускай культуры праведзенага па заказу ЮНЭСКА „Цэнтрам еўрапейскай трансфармацыі" „беларуская незалежная і беларускамоўная культура ў маргінальным стане". Сярод галоўных перашкод для развіцця беларускай культуры эксперты называюць палітычную ангажаванасць у дзяржаўных культурных праграмах а таксама наяўнасць моцнай, непадкантрольнай экспансіі расійскай культуры. У беларускай культуры існуе падзел на „лаяльную" і „незалежную". „Нелаяльная" культура ператвараецца ў маргіналізаваную субкультуру. Хаця Беларусь падпісала Канвенцыю ЮНЭСКА, яна парушае прынцыпы Канвенцыі: свабоду выказвання думак, пашырэння інфармацыі, магчымасці выбіраць форму культурнага самавыяўлення. Дэ-факта існуе цэнзура, чыноўнікі ствараюць „чорныя спісы", уводзяць забарону на адкрыццё выстаў ці іншых мерапрыемстваў.

**У Беларусі няма** сваёй, незалежнай інфармацыйнай прасторы. Паколькі няма ні моўнай ні псіхалагічнай мяжы, беларусы не адрозніваюць расійскіх навін ад сваіх. На беларускіх тэлеканалах дамінуе расійская поп-культура, на FM-станцыях расійская „папса", затое заходняя музыка і фільмы даецца вельмі дазавана. Чалавек з натоўпу, сярэднестатычны абывацель, раўнадушны спажывец культурнага прадукту – вось герой нашага часу. Менавіта на яго непераборлівыя, патрэбы скіраваная ўся актыўнасць масмедыяў, культурных устаноў і многіх творцаў. У такім грамадстве якое выйшла з вёскі, толькі вёска не выйшла з іх, любая ўлада можа адчуваць сябе камфортна, бо нацыянальныя эліты былі знішчаныя раней, а яе рэшткі не ў стане скласці альтэрнатыву і аказаць супраціў татальнаму пагружэнню ў інфармацыйную дрыгву. Паводле Ірыны Хадарэнкі, манапалізацыя дзяржавай СМІ „вымушае людзей паглынаць гігабайты лухты пад маркай творчых здабыткаў. Той, хто хоча ствараць мастацкія творы не для масы, а для асоб, здольны мысліць незалежна, той непазбежна пачынае спускацца па лесвіцы контркультуры да сутарэнняў андэграўнду". Гэтая з'ява вядомая і ў іншых краінах, але ў Беларусі яна вельмі заўважная.

**Паказчыкам стаўлення дзяржавы да культуры** з'яўляецца галоўны міжнародны фестываль „Славянскі базар". Яго можна лічыць класічным узорам прымітыўнай, „лубачнай" творчасці адрасаванай тым, хто аніяк не можа пазбавіцца настальгіі па савецкім часе з яго адзінай культурнай прасторай. Там не „славянства" а касмапалітычны „базар", усёпаглынальны кіч і парад так званых „фанерных" зорак найперш расійскай папсы. Яны нават не спяваюць, толькі пускаюць свае студыйныя запісы з плей--бэку. Гэта ўжо не столькі культура, колькі пародыя на яе. І нават зоркі беларускіх рок-калектываў са смешнымі, ангельскімі назвамі гучаць там не з прычыны свайго майстэрства, а таму што яны карыстаюцца прыхільнасцю чыноўнікаў ад культуры. Для большасці слухачоў Аляксандар Саладуха і ягоныя спевы – вяршыня эстраднага майстэрства, як для многіх палякаў Зэнэк і дыска-пола (disco--polo). Мне яны абодва разам з іхняя музыкай цалкам непатрэбныя, але я не пагарджаю іхнімі фанамі. Яны папулярныя, бо патрапілі на непераборлівыя густы слухачоў. Апроч таго трэба ўлічваць вагу соцыятэхнікі. Шляхамназойлівай рэкламы і бясконцых паўтораў навязваецца попыт і гэтак спрацоўвае механізм маніпуляцыі людзьмі, якія ў большасці непатрабавальныя і нават прымітыўныя. Гэта нешта кшталту „фастфудаў". Навошта людзям добрая, але цяжкая для ўспрыняцца літаратура, навошта якасная, але не для танцу музыка? Ім хопіць каб было забаўна, лёгка, прыемна. Навошта думаць, ламаць галаву пасля цяжкай працы і сямейных праблем? Густы людзей паддаюцца фармаванню, але масавая культура не ставіць перад сабою педагагічных мэт. Яна прапануе ўніверсальны прадукт – сваю танную, лёгкую, даступную страву, гэта значыць забаву. Калі чалавек чуе і бачыць толькі адно, яму здаецца, што гэта і ёсць сапраўдная прыгажосць, адзіная праўда ды рэальнасць. Сіла дзяржаўных медыяў з'яўляецца ў тым, што яны нагадваюць калгасную сталоўку. Можаш есці а можаш і не, але нічога іншага тут няма. Дакладней, увогуле то выбар ёсць, як існуе шыкоўны, дарагі рэстаран недалёка ад „МакДональдса", як існуе Філармонія непадалёку ад дыскатэкі, але каб пайсці туды трэба больш захаду, грошай, падрыхтоўкі, азнаямлення з прадуктам. Гэта для эліты, для інтэлігентаў, а большасць людзей простыя ў сваіх эстэтычных уяўленнях і задавальняецца тым, каб быць „як ўсе".

**Што рабіць незадаволеным?**

**Ды што застаецца чалавеку**, якога не задавальняе тое „шчаслівае" жыццё апісанае афіцыйнымі асобамі і СМІ і яго ўжо не трымаюць бы ў клетцы, як было ў савецкія часы? Чалавеку маладому, прагрэсіўнаму, дзелавому, адукаванаму, амбіцыйнаму, крэатыўнаму застаецца з'ехаць на часовы заробак за мяжу альбо цалкам падацца ў эміграцыю. І многія людзі гэтак робяць, асабліва маладыя,

найбольш актыўныя, перспектыўныя і крэатыўныя. З'ехаць часова ці назаўжды ў пошуках лепшай долі, змена месца жыхарства і працы, нават у кансерватыўнай Беларусі ўжо не разглядаецца як здрада Радзімы, хаця і не ўхваляецца. Кожны разумее, што тут гаворка ідзе пра запатрабаванасць чалавека ў прафесійнай сферы, пра лепшыя заробкі дзеля ўтрымання сям'і і лепшую адукацыю для дзяцей.

Асноўныя прычыны эміграцыі тры: магчымасці, заробкі, свабода. Адносна магчымасцей і заробкаў, дык уладкавацца на добра платную працу, напрыклад у замежнай кампаніі можна і ў Беларусі, але гэта для адзінак. Адкрыць свой маленькі бізнес таксама можна, але цяжка з прычыны бюракратыі і адсутнасці танных крэдытаў, праграм падтрымкі дробнага прадпрамальніцтва. Калі нехта хоча далей вучыцца, дык з прычыны адсутнасці цікавых праграм, грантаў і слабой універсітэцкай мабільнасці з гэтым у яго не атрымаецца. Калі расходзіцца пра самыя заробкі, дык нават мыючы посуд альбо працуючы афіцыянтам, малады чалавек больш заробіць у любой краіне Еўрасаюзу. Кажучы пра свабоду зусім не маецца на ўвазе палітычнай свабоды, бо гэта не цікавіць шэраговага, прагматычнага беларуса. Дэмакратыя, выбары, правы чалавека гэта нязменны занятак для жменькі так званых „прафесійных" апазіцыянераў. Сярэднестатыстычны беларус не губляе часу ні нерваў на палітыку, бо ён на яе не мае ніякага ўплыву. Ён ведае, што ў краіне маем дачыненне не са сталінскімі рэпрэсіямі, але з брэжнеўскім застоем, стагнацыяй. Яму расходзіцца пра свабоду выбару і самавыяўлення, выбар занятку, права жыць, апранацца, сустракацца з кім хочаш і выглядаць як хочаш. Але ж тут кожная нестандартнасць, нават нерасійская мова на вуліцы, няправільнае погляды, нават трэцярадныя рэчы як вопратка, колер валасоў, леваручнасць, пірсінг, не кажучы пра сексуальную арыентацыю, зробіць з чалавека аб'ект атакаў і астракізму. Па сапраўднаму творчы, самастойны, арыгінальны, палітычна ангажаваны чалавек будзе залічаны ў разрад нядобранадзейных, сустрэнецца за насцярожанасцю або і перaследам.

У эміграцыю з'язджаюць таксама літаратары, журналісты, мастакі. Некаторыя паспяхова займаюцца сваёй справай, маюць там лепшыя ўмовы для працы і калі там яны дасягнуць поспеху, іх поспехі запішуцца на беларускі рахунак хаця б часткова. Калі чалавек нідзе не запатрабаваны, ён застанецца неўдалотай і ў Амерыцы і ў Беларусі. Творчаму чалавеку наогул цяжка прабіцца, атрымаць прызнанне, славу і грошы ў любой краіне. Акрамя таленту трэба знайсці сваю нішу, спрыяльны грунт, умела распрапагандаваць сваю асобу ўлічваючы попыт і спецыфіку масавай свядомасці. Для арыгінальных творцаў вельмі дрэнна, калі дзяржава не зацікаўленая ў падтрымцы сваёй, нацыянальнай культуры і пры гэтым яна кантралюе галоўныя СМІ. Гэта яны фармуюць самыя ўстойлівыя стэрэатыпы і густы. Многія людзі слухаюць толькі адну радыёстанцыю, глядзяць толькі адзін тэлеканал і ходзяць на канцэрты толькі вядомых, папулярных музыкаў і спевакоў.

## Мова – несуцяшальныя факты

Стан нацыянальнай беларускай культуры заўважана бачны на прыкладзе літаратуры. Яна існуе ў своеасаблівым гета: менш палічак у кнігарнях і бібліятэках, гадзін у школьнай праграме, радкоў, якія на памяць можа расказаць кожны. Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч (Сачанка) кажа, што беларусы як і іншыя нацыі мала чытаюць на любой мове, усяго 3-5 адсоткаў. Па-расійскую пераважна Акуніна, Марыніну, Пялевіна і Прылепіна. Беларускамоўныя кнігі выходзяць невялікімі накладамі, але маюць сваіх чытачоў Арлоў і Разанаў, Хадановіч і Бахарэвіч. У кнігарнях беларускія палічкі губляюцца ў моры расійскіх кніжак. „Без літаратуры мы не зможам авалодаць мовай, а каб чытаць беларускія кнігі, трэба ведаць мову. Але адкуль гэта возьмецца, калі мова не гучыць з экранаў тэлебачання, скарачаюцца курсы мовы і літаратуры ў школах... Каб вярнуць інтарэс народа да чытання беларускіх кніг, трэба вярнуць беларускую мову ў дзіцячыя садкі, школы, ВНУ. Беларусь сёння – адзіная краіна ў свеце, якая не мае Нацыянальнага ўніверсітэта, дзе ўсе прадметы выкладаліся б на мове тытульнай нацыі" – кажа Барыс Пятровіч. Аднак усё роўна самыя цікавыя, вядомыя і чытаныя пісьменнікі гуртуюцца якраз у гэтым незалежным Саюзе. Яны не спадзяюцца на падачу і хочуць, каб прынамсі не перашкаджалі. Не разлічваюць на вялікія ганарары, хуткую славу і тое, што нехта кінецца выдаваць іх кнігі. Але незалежнаму Саюзу і так удалося выдаць на розных мовах свету кнігі Быкава, Караткевіча, Адамовіча, якіх ужо няма з намі, а Разанава, Арлова, Алексіевіч, Някляева, Пашкевіча, Бабінай, Вішнёва, Клінава, Хадановіча. Пры Саюзе ўжо некалькі гадоў працуе Школа маладога пісьменніка, якую скончылі 16 маладых празаікаў. У бібліятэчцы для дэбютантаў „Пункт адліку" выйшла больш за 10 кніг. Штогод праводзіць конкурсы для літаратурнай моладзі, фестывалі, слэмы, вечарыны.

**Ці можна быць беларускім не па-беларуску?**

І тут падыходзім да ключавога пытання з пункту погляду культуры: да мовы. Некалі Адам Глобус выступіў з катэгарычнай заявай датычнай літаратуры: беларускі пісьменнік – той, які піша па-беларуску; пісьменнік, які не піша па-беларуску, – не беларускі пісьменнік. Згодзен з ім і старшыня Саюза Беларускіх Пісьменнікаў Барыс Пятровіч. Па яго словах: „Сучасная беларуская літаратура – гэта літаратура толькі на беларускай мове. Калі казаць пра дзяржаву Беларусь, то беларуская літаратура стваралася і ствараецца на розных мовах, не толькі на беларускай, але і на рускай, ідыш, польскай, украінскай. Але толькі беларуская мова можа ўплываць на развіццё нашай нацыянальнай літаратуры. Усё, што пішацца на іншых мовах – гэта ўклад у развіццё літаратур тых народаў, на мовах якіх ствараюцца творы" – лічыць старшыня Саюзу Пісьменнікаў. „Так – кажа ён – творы расійскамоўных пісьменнікаў, такіх як Адамовіч, Алексіевіч і іншых – гэта здабытак літаратуры сучаснай Беларусі, але не нацыянальнай літаратуры. Няма мовы – няма літаратуры".

У сваю чаргу Віктар Марціновіч, расійскамоўны публіцыст і пісьменнік сумленна прызнае, што ён, ураджэнец Ашмянаў, проста не ўстане пісаць па-беларуску. „Майго вакабуляра не хапае для таго, каб пісаць па-беларуску, і я разумею, што не маю ніводнага шанцу ўвайсці ў беларускі літаратурны дыскурс проста таму, што калі ты пішаш, будучы беларусам, пра Беларусь, пра Мінск па-расійску, – ты ўжо не беларускі пісьменнік". Ёсць яшчэ аспект прыналежнасці да беларускай традыцыі. Але і тут прыходзіцца прызнаць, што палова сучасных беларускіх літаратараў „выхаваліся" на Мандэльштаме, Бродскім ды іншых замежніках, заміж на Купалу, Багдановічы і Караткевічы. Тут хачу адзначыць, што творчасць Сакрата Яновіча поўніцца захапленнем лаканічнай і квяцістай, сакавітай і каларытнай прозай адэскага жыда Ізаака Бабеля. З Беларуссю ў Бабеля не было нічога супольнага.

Андрэй Хадановіч звярнуў увагу на іншы факт: у Беларусі беручы інтэрв'ю ў беларускіх творцаў абавязкова падкрэсліваюць: беларускі паэт, беларускі пісьменнік, беларускі драматург. У гэтых словах прыхаванае папярэджанне: Увага! Гэта творчасць нішавая, меншасная, на малазнаёмай і малапашыранай мове. Атрымліваецца, што ўсе іншыя, якія тут жывуць і працуюць не – беларускія! Але ж яны могуць пакрыўдзіцца. Па словах філосафа Валянціна Акудовіча гэта вынік таго комплексу посткаланіяльнай свядомасці. У Савецкім Саюзе былі нацыянальныя літаратуры і была ўласна літаратура – расійская, і ніхто не падкрэсліваў, што Шолахаў і Распуцін – расійскія пісьменнікі, а вось пра кожнага з нацыянальных пісьменнікаў як Васіля Быкава альбо Уладзіміра Караткевіча абавязкова гаварылася: беларускі, украінскі, армянскі, грузінскі і г.д. І ім давалі годнасць „народнага", а расійскім не давалі.

Але ці мова творчасці раўназначная з нацыянальнасцю твора? Ці беларуская літаратура можа быць толькі на беларускай мове? Агульнавядома, што чыста па-беларуску пачалі пісаць толькі ў другой палове XIX стагоддзя, затое ў XVII-XVIII стагоддзях не было развітай літаратуры на беларускай мове. Тым не меней існавала шматмоўная літаратура: польская, лацінская, царкоўнаславянская ды іншыя ў шматнацыянальным Вялікім Княстве Літоўскім. Адам Мальдзіс вельмі хацеў, каб усе пісалі па-беларуску, але ён казаў: „мы павінны змірыцца з фактамі і прыняць тое, што беларуская літаратура палімоўная і такой заўсёды была. А калі беларус любіць сваю краіну і хацеў бы пісаць па-беларуску, ды не атрымліваецца ў яго і ён піша па-расійскую ці па-польску, але ён піша знакаміта і працуе ў рамках так бы мовіць ‹беларускага нацыянальнага праекту› і да таго ж паўсюль заяўляе: я – беларус. Дык хто ён?" Валянцін Акудовіч лічыць, што па вялікім, рахунку мова – толькі сродак для расповеду пра чалавека і свет. Ён згадвае ўдалыя выпадкі калі нехта, як Андрэй Адамовіч спярша пісаў па-расійскую, але па свайму жаданню перайшоў на беларускую. „Але я заўсёды кажу: калі вашая этнічная мова – руская і асабліва калі вы пішаце вершы, ніколі не пераходзьце на беларускую мову! Вашая творчасць на этнічна чужой мове ніколі не будзе поўнаю" – лічыць Акудовіч.

З другога боку Алесь Разанаў заўважыў, што „А што калі літаратар нічога выразна не кажа пра сваю нацыянальнасць, але ў сэрцы ён адчувае сябе беларусам? Паўстае пытанне: ці можам мы дазволіць сабе раскошу так лёгка раскідвацца небеларускамоўнымі беларусамі, якія адчуваюць сябе беларускімі літаратарамі?"

Калі гаворка ідзе пра літаратуру, то тут фактар мовы адыгрывае вялікую ролю. Аднак у выпадку выяўленчага мастацтва, фактару мовы няма, бо ўсе фарбы прамаўляюць на адной мове. Калі спрабуем вызначыць, беларускі, расійскі, польскі, габрэйскі мастак Марк Шагал, Казімір Малевіч ці Лявон Тарасэвіч, фактару мовы няма. У дадзеным выпадку французская даследчыца творчасці Шагала – Клэр Лефоль прапануе такое азначэнне нацыянальнасці: калі на палотнах мастакоў заўважна

прадстаўленая беларуская ці габрэйская рэальнасць, напрыклад сцэны габрэйскага побыту, як у Юрыя Пэна, або Эль Лісіцкага, тады гэта беларуска-габрэйскія мастакі, хаця і не нарадзіліся ў Беларусі.

**А можа рабіць сваё?**

Актыўны беларус, які хоча палепшыць свой матэрыяльны статус з'язджае „за хлебам" за мяжу. Творчы беларус, які пакутуе ад сваёй бездапаможнасці, ад удушлівай атмасферы ўраўнілаўкі таксама з'язджае або застаецца зыходзячы ў свой унутраны свет, падаючыся ва ўнутраную эміграцыю. У творчых людзей гэта нармальная сітуацыя, бо сама іхняя індывідуальнасць не дазваляе быць адным з многіх. Ён шукае сваё месца сярод вузкага кола адзінадумцаў. Праўда, ёсць інтэрнэт, сацыяльныя сеткі, віртуальная прастора. Гэта нейкая магчымасць умоўна кажучы „пабыць" у іншым свеце, нават паказаць сябе, свой талент, свае дасягненні, знайсці прыхільнікаў, хаця гэта даволі слабая падстава для кар'еры.

Трэба сабе ясна сказаць: высокая культура паўсюль з цяжкасцю знаходзіць сімпатыкаў і беларуская тут не выключэнне. Яна пераважна трымаецца на энтузіязме людзей, якія імкнуцца да самарэалізацыі, прапануюць цікавыя, актуальныя ці арыгінальныя ідэі, закранаюць важныя, надзённыя тэмы. Аднак часцяком у іх невялічкая аўдыторыі, таму творчасць не дае прыбытку акрамя хіба што маральнага задавальнення. З творчай працы паўсюль цяжка пражыць а ў Беларусі стала амаль нормай, што немагчыма займацца творчай самарэалізацыяй і зарабляць у адным і тым жа месцы. Часта таленавіты чалавек дзесьці працуе, а потым вечарамі ці ў выходныя піша вершы ці малюе карціны ў якасці хобі. Гэтыя ўмовы, немагчымасць зарабляць творчасцю, могуць аднак ператварыцца ў станоўчы стымул, каб стварыць унікальны прадукт, таму што ён зроблены на хобі, на энтузіязме і на сапраўдным таленце. Сальеры жыў лепш чым Моцарт, але гісторыя рассудзіла, хто з іх быў лепшы. Ведаем таксама людзей, якія пры жыцці мелі ўсё: талент, славу і грошы. Праўда, яны ў меншасці.

**Перастаць лямантаваць**

Падчас прэзентацыі свайго альбому „Наша песня" Зміцер Вайцюшкевіч заявіў: „Хопіць дзяліцца на ‹чэсных› і ‹нячэсных›, на левых і правых, на беларускамоўных і рускамоўных. Хопіць дзяліцца паводле колеру сцяга ці паводле палітычных сімпатыі. Натуральна, што мы ўсе розныя і маем розныя перавагі. Але глабальна ўсе, хто дбае пра Беларусь і яе культуру – на адным баку". Ускосна на Беларусь і яе імя ў свеце працуе кожны, хто не жыве ў Беларусі, але дасягнуў велізарнага поспеху і прызнаецца ці падкрэслівае свае беларускія карані. Нельга нам пагарджаць тымі, хто спявае беларускія песні не ў філармоніях і ў вялікіх аўдыторыях, але на фэстах і вяселлях, бо гэта таксама частка беларускай культуры. Яны робяць тое, што запатрабаванае. Не забывайма, што хлеб ядуць усе людзі і мабыць штодня, затое торты не ўсе і не штодня. Пэўныя рэчы заўсёды будуць даступныя толькі для эліты, для пэўнай групы, але ёсць і заўжды будуць шэраговыя, простыя людзі.

Тры гады тады культуролаг Максім Жбанкоў таксама прапанаваў забыць пра маналітную нацыянальную свядомасць, бо адзінымі беларусы як нацыя памежжа ніколі не былі і не будуць. Яны шматмоўныя, шматканфесійныя, мазаічныя і пярэстыя. Не варта аглядацца на той груваcткі агрэгат афіцыйнай культуры, які топчацца на месцы, імітуе бурную дзейнасць, працуе ў халастым рэжыме „грукату". „Вертыкаль улады: палітычная, ідэйная, эстэтычная сама сябе скампраметавала і – як кажа Лявон Вольскі – логіка барацьбы ўжо не спрацоўвае і няма што з ёю змагацца". Істотныя змены ў Беларусі могуць не адбыцца яшчэ працяглы час. Калі нечага нельга змяніць, трэба з гэтым змірыцца. Трэба прыняць сябе такімі, якімі мы на самой справе і перастаць лямантаваць і скардзіцца. Проста, беларусы жывуць у рэаліях, калі ўсё вырашаецца без іх. Гэта тычыцца і мовы і культуры і эканомікі і палітыкі. Аднак ёсць і тут нешта аптымістычнае. Тая афіцыйная культура на датацыях, рэгламентаваная, кормленая грантамі па загаду зверху, раней ці пазней заб'е сама сябе і прайграе з самаробнай, жывой, адкрытай творчасцю. Дадам яшчэ: няварта бясконца вагацца паміж Усходам і Захадам, бо ў галіне творчасці гэта міфіныя Сцыла і Харыбда. Трэба ведаць, што адбываецца ў свеце. Патрэбнае канструктыўнае ўзаемадзеянне з іншымі культурамі і фільтрацыя замежных каштоўнасцей, але не для пасіўнага ўспрымання і запазычанняў. „Песняры" запісаліся ў гісторыі не таму, што ігралі на гітарах не горш за „Бітлзаў", але на савецкай прасторы былі шмат у чым першымі і непаўторнымі. Памятайма, што больш за ўсе беларускія рок-гурты вядомы ў свеце ансамбль „Лілея", дзе сапраўднае майстэрства дэманструюць беларускія цымбалісты. Цымбалы – гэта беларускі скарб, гэтак як знакамітыя хоры, канты, народная музыка і інструменты! Не ангельскімі назовамі

(якія я асабіста цалкам не успрымаю) і малпаваннем чужых стыляў і жанраў можна паказаць сваю вартасць, але адклікаючыся да прыхаванай глыбіні нацыянальнага духу, скалечанага наслаеннямі замежных уплываў.

Некаторыя беларускія творцы бачаць сімптомы змен да лепшага нават у свядомасці беларусаў. Вось для прыкладу тое бяздумнае успрыманне расійскага за „сваё" і „лепшае" змяншаецца і з боку публікі і творцаў, акрамя чыноўнікаў ад культуры. Вядома, на прасоўванне нацыянальнага, арыгінальнага прадукту патрэбныя і грошы, і мецэнацтва, і прафесійная сістэма прамоцыі прадукту творчай дзейнасці, і канцэртныя агенцтвы, і выдавецтвы, кніжны гандаль і рэклама. Усё гэта перашкоды, якія некаторым удалося пераадолець і нават зарабіць грошы (Адам Глобус). Трэба карыстацца тым, што на дадзены момант даступнае. Я перакананы, што сапраўдны талент будзе прыкмечаны і праврвецца цераз усе перашкоды. Ёсць у Мінску Галерэя сучаснага мастацтва „Ў". Яна слушна лічыць сябе прасторай творчай і інтэлектуальнай Беларусі. Сама сябе на сваім сайце яна называе „вольнай пляцоўкай для лакальнага і міжнароднага культурніцкага дыялогу, якая спрыяе фармаванню актуальнага разумення выбітнай ролі культуры і мастацтва ў сучасным грамадстве". Галерэя арганізуе адукацыйныя праграмы, круглыя сталы, дыскусіі, майстар-класы, лекцыі, семінары, сустрэчы з выбітнымі прадстаўнікамі сучаснай арт-крытыкі. Вартым увагі з'яўляецца праект „Еўрапейскае кафэ" – цыкл дакладаў і дыскусій якія праходзяць у гарадскіх кавярнях ды адкрытых плашчадках Мінска з 2011 года. Вядома, што гэта ўсяго толькі эрзац таго, што павінна было б быць. Калі б падобных установаў і ініцыятыў было болей, гаварыць пра бядотны стан беларускай культуры не прыходзілася б.

Паўтаруся: трэба рабіць сваё! Не чакаць цуду! Не плакаць і енчыць, што мова гіне, краіна гіне! Будзем спадзявацца, што „загляне сонца і ў наша аконца". У гэтым свеце нішто не вечнае: і добрае і дрэннае. Межы змяняюцца, мова змяняецца, але Беларусь застаецца як ідэя ў сэрцы. Пару гадоў таму беларускія інтэлектуалы абмяркоўваючы пытанне мінулага і будучыні краіны на канферэнцыі пад лозунгам: „Дзе ў сусвеце плыве Беларусь?" працытавалі верш Зніча: „Там павольна плыве Беларусь, дзе зліваюцца сум і сумленне, дзе адвечнае супраціўленне, дзе шляхотны мужык Кастусь".

Спадзяюся, што ўдзельнікі сёлетняга Трыялогу змястоўней і трапней чым я разгорнуць тэму XX юбілейнай сустрэчы.

Кастусь Бандарук

